ВАЧАМІ САЦЫЁЛАГА

# 5. ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

(Працяг. Пачатак у №№ 119, 120, 122, 123).

Ключавое звяно рэформы—змяненне форм уласнасці, стварэнне новых форм гаспадарання на раўнапраўных умовах. З розных спосабаў прыватызацыі людзі аддаюць перавагу акцыяніраванню прадпрыемстваў яго работнікамі і арэндзе з наступным выкупам. Засмучае тое, што 30 працэнтаў апытаных не задумваюцца над гэтым. Гэта значыць, яны практычна раўнадушныя да свайго будучага. Усё яшчэ дае знаць аб сабе былая псіхалогія: няхай, маўляў, начальства вырашае.

Значная частка рэспандэнтаў хацела б працаваць на прыватных прадпрыемствах пры ўмове, што заробкі будуць больш высокія.

Пры агульных станоўчых адносінах да ўласнасці на зямлю ёсць розніца ў адказах гараджан і сялян. Сярод гараджан 91 працэнт за такую ўласнасць. Сярод жыхароў сельскай мясцовасці — толькі 32 працэнты. Разам з тым да калгасна-саўгаснай уласнасці станоўча адносяцца 42,5 працэнта гараджан і 70 працэнтаў сялян.

**1. Які спосаб прыватызацыі прамысловых прадпрыемстваў вам здаецца найбольш прымальным!** (можна выбраць некалькі варыянтаў).

| | |
|---|---|
| 1. Акцыяніраванне прадпрыемства толькі членамі працоўнага калектыву | 28,7 |
| 2. Продаж акцый усім жадаючым | 17,1 |
| 3. Выкуп прадпрыемства прыватнай асобай (толькі грамадзянінам Беларусі) | 16,4 |
| 4. Выкуп грамадзянамі любой з дзяржаў СНД | 4,9 |
| 5. Выкуп грамадзянамі замежных дзяржаў | 9,5 |
| 6. Арэнда з наступным выкупам | 24,9 |
| 7. Не ведаю, не задумваўся над гэтым | 30,8 |

**2. Калі ў працэсе прыватызацыі вы будзеце набываць што-небудзь ва ўласнасць, то чаму вы аддасце перавагу:**

| | |
|---|---|
| 1. Набываць толькі за наяўныя грошы: | 32,3 (27,6) |
| 2. Браць крэдыт | 58,1 (49,7) |
| 3. Няма адказу | 9,5 (22,7) |

**3. Ці хочаце вы працаваць на прыватным прадпрыемстве!**

| | |
|---|---|
| 1. Так, хачу, калі буду больш атрымліваць | 51,4 (7,3) |
| 2. Профіль работы не дазваляе працаваць на прыватным прадпрыемстве | 9,8 (7,3) |
| 3. Не, не хачу | 20,7 (21,0) |
| 4. Цяжка сказаць | 2,0 (0,7) |

**4. Як вы ставіцеся!** (адказалі станоўча)

| | |
|---|---|
| 1. Да прыватнай уласнасці селяніна на зямлю | 78,8 (87,6) |
| 2. Да калгасна-саўгаснай уласнасці | 42,5 |
| 3. Да прыватнай уласнасці з выкарыстаннем наёмнай працы | 46,9 |
| а) у прамысловасці | |
| б) у сферы паслуг | 53,5 |
| в) у сельскай гаспадарцы | 55,3 |
| г) у гандлі | 52,3 |

(Працяг будзе).

# Вера, Надзея і Любоў

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Паглядзіце на гэтыя здымкі і вы адчуеце, які настрой пануе ў аграфірме «Зара». Маладая змена гаспадаркі паказвае прыклады стараннасці і працавітасці. З кім з іх не даводзілася гутарыць, усе яны гарой стаялі за калектыўную гаспадарку.

— Справа ў тым, што за гады Савецкай улады змянілася псіхалогія селяніна, — разважае намеснік старшыні калгаса Аляксандр Гаўрук, — ды і ўмоў для вядзення асабістай гаспадаркі цяпер зусім няма. У адным з інтэрв'ю віцэ-прэм'ер Расіі Аляксандр Руцкой заявіў, што для станаўлення фермерскай гаспадаркі (па цяперашніх цэнах) патрэбна 10—15 мільёнаў. Лічбы астранамічныя! Прасцей разбурыць, а вось пабудаваць на пустым месцы новае вельмі цяжка. Выхад быў знойдзены: на базе калгаса стварылі аграфірму, дзе кожны член былога калгаса стаў уладальнікам пакета акцый у залежнасці ад свайго ўкладу ў развіццё гаспадаркі. Акцыі могуць перадавацца ў спадчыну ад бацькоў дзецям.

Доўга разам з вучонымі распрацоўвалі гэтую сістэму. Знайшлі аптымальны варыянт. Цяпер кожны, ад палявода да старшыні, адчувае: як папрацуе, так і атрымае, таму што ад іх стараннасці залежаць паказчыкі ўсёй фірмы, а ў выніку — дабрабыт іх сем'яў.

— Цяжка было адразу зразумець, што да чаго, — гаворыць загадчык вытворчасці Леанід Іванавіч Саўчук. — На сходзе людзі задавалі шмат пытанняў, многія сумняваліся. Паверылі не довадам вучоных, а хутчэй Леаніду Фядонавічу, якому даверылі лёс сваіх вёсак, сваіх дзяцей. Нас заўсёды выручала Вера адзін у аднаго, Надзея на лепшую будучыню, Любоў да працы.

НА ЗДЫМКАХ: усе палявыя работы (пасадка капусты, акучванне бульбы, нарыхтоўка сена і іншыя) ў гаспадарцы праводзяцца ў лепшыя тэрміны. Таму добры настрой у маладых працаўнікоў фірмы — намесніка старшыні Аляксандра ГАЎРУКА, спецыяліста па агародніннных культурах Наталлі ЛАГАЦКАЙ, механізатара Віктара МЯДЗВЕДЗІКА. Галоўны інжынер гаспадаркі Мікалай ДЗЯЙКО, механізатар Мікалай САЎЧУК і галоўны аграном Марк ЛАНЦМАН правяраюць якасць сена.

Уладзімір АНДРЫЕВІЧ, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).









ГІСТОРЫЯ БЕЗ «БЕЛЫХ ПЛЯМ»

# Невядомы Касцюшка

**Паўстанне 1794 года, пасля паражэння якога перастала існаваць Рэч Паспалітая, а Беларусь увайшла на доўгія дзвесце гадоў у Расійскую, а потым Савецкую імперыю, — гэта паўстанне ў нас да апошняга часу называлі «польскім». Хоць беларускі яго след таксама застаўся ў гісторыі і меў на нашу Бацькаўшчыну немалы ўплыў.**

**Пра гэта размова з кандыдатам гістарычных навук Уладзімірам ЕМЯЛЬЯНЧЫКАМ, аўтарам кнігі аб паўстанні Т. Касцюшкі на Беларусі, што ўбачыць свет праз два гады ў выдавецтве «Беларусь».**

**— Уладзімір Пятровіч, пасля падаўлення паўстання 1794 года Беларусь была вымушана павярнуцца тварам на ўсход. Што гэта азначала для яе?**

— Так, у 1795 годзе знікла з гістарычнай карты Еўропы дзяржава «Рэч Паспалітая Абодвух Народаў». Скончылася шматвяковая спроба ў асноўным заходняй арыентацыі Беларусі. У выніку далучэння беларускіх зямель (1772, 1793, 1795 гг.) да Расійскай дзяржавы нас амаль два стагоддзі насільна спрабавалі «зарыць» у катле русіфікацыі. Мы займелі, такім чынам, і «ўсходні» вопыт. І што, якія высновы? А не надта новыя. Яшчэ ў 1795 годзе наш зямляк з Браслаўшчыны Тамаш Ваўжэцкі, пераемнік Касцюшкі на пасадзе кіраўніка паўстання, ужо вызначыў, як мне здаецца, максіму нашай «экзістэнцыі». У вольным перакладзе яна гучыць так: «Нішто беларусаў так пагубіць не зможа, як тое, што заўжды жадалі быць чужымі і прывязваліся да Расіі... да прусака, а цяпер хочуць пайсці за французамі, калі толькі самімі беларусамі быць павінны і змагацца не за французскія, а за ўласныя землі, свабоды і правы». Дык вось: тварам нам трэба павярнуцца перш за ўсё да саміх сябе, а ўжо потым, з усведамленнем уласнай годнасці, аглядвацца на іншых.

**— Тады якое значэнне ў кантэксце гэтай праблемы мела паўстанне 1794 года для Беларусі, і хто такі для нас, беларусаў, Т. Касцюшка?**

— Тадэвуш Касцюшка — гэта нашчадак старажытнага беларускага шляхецкага роду. Так, ён служыў перш за ўсё Рэчы Паспалітай, лічыў яе супольнай вялікай радзімай для ўсіх яе жыхароў. Але ніколі не забываў пра радзіму свайго сэрца, куток Берасцейшчыны, дзе нарадзіўся і вырас, да якога заўжды рваўся душою. Вось як звяртаўся Касцюшка да сваіх суайчыннікаў 2 чэрвеня 1794 г. з тэрыторыі Кароны (сучаснай Польшчы): «Літва! («Літва» — так у канцы XVIII ст. называлі значную частку сучаснай Беларусі). Землякі і суайчыннікі мае! На вашай нарадзіўся зямлі і ў запале праведным для маёй Бацькаўшчыны адгукаецца ўва мне найасаблівейшая схільнасць да тых, паміж якімі распачаў жыццё».

Палякамі Т. Касцюшка заслужана ўведзены ў разрад нацыянальных герояў, ён амаль што святы. Як сказаў адзін з польскіх гісторыкаў, Т. Касцюшка не змог ураттаваць Рэчы Паспалітай, але ён выратаваў палякаў як народ. Ён заклаў падмурак польскага вызваленчага руху.

А хто Касцюшка для беларусаў, сваіх землякоў? Страчаны, незапатрабаваны герой? Нам не трэба ні ў якім разе адбіраць яго ў палякаў, насільна рабіць «нашым», прабачце, за вушы прыцягваць да беларушчыны. Ці недастаткова, што з нашага ён, беларускага кораня і шмат зрабіў для сваёй зямлі, гонару яе нідзе не зганьбіў. Хаця б у той жа Паўночнай Амерыцы, за незалежнасць якой змагаўся ў 1776—1784 гадах. Дарэчы, Касцюшка і ў Амерыцы лічыцца нацыянальным героем! Але калі пра Касцюшку мы яшчэ сёе-тое ведаем, то пра яго паплечнікаў па паўстанню «на Літве», напэўна, зусім нічога. Я маю на ўвазе перш за ўсё Якуба Ясінскага, Міхала Агінскага (вядомага аўтара славутага паланеза «Развітанне з радзімай»), Стэфана Прабоўскага і многіх іншых, роля якіх у падзеях 1794 г. на Беларусі яшчэ малавядомая. Кніга — таксама і аб іх. А можа, і перш за ўсё — аб іх, нам, беларусам, невядомых. Бо з вяртаннем забытых герояў і падзей вернецца да беларусаў і ўсведамленне ўласнай годнасці.

**— У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі значыцца, што помнікі Т. Касцюшку ёсць у Польшчы і нават у чатырох гарадах ЗША. А ў нас ці захавалася якая-небудзь памяць аб герою, аб іншых беларусах, удзельніках паўстання?**

— Не, нічога няма. У пачатку XIX ст. у маёнтку Міхала Агінскага Залессе, што пад Смаргонню, яшчэ існаваў памятны камень з надпісам «Ценям Касцюшкі». Яго ўстанавіў сам гаспадар пасля паражэння паўстання — гэта быў выклік уладам. Але камень стаяў...

Затое ў нас на Беларусі існуе (я магу памыліцца) каля сарака калгасаў імя А. В. Суворава. А ў яго музеі ў Кобрыне няма ні слова, ні паўслова аб ролі вялікага палкаводца ў паўстанні 1794 г. на Беларусі. Я не заклікаю перакрэсліць усе былыя заслугі А. В. Суворава, але ён быў душыцелем паўстання Т. Касцюшкі, і гісторыя тут павінна быць аб'ектыўнай. Дык якія ж мы пасля таго землякі Т. Касцюшкі? Як мы не шануем памяць сваіх продкаў! Як на гэтым прыкладзе відно яно, гэта часам шытае белымі ніткамі, штучнае «адзінства лёсаў...»

Да 200-й гадавіны паўстання засталося чакаць нядоўга. І каб потым не біць сябе ў грудзі, выбіваючы пыл бяспамяцтва, трэба абавязкова паспець увекавечыць месцы паўстанцкіх баёў касцюшкаўцаў на Беларусі пад вёскамі Паляны і Солы на Ашмяншчыне, у вёсцы Крупчыцы пад Кобрынам. Назваць хоць адну вуліцу ў Мінску, Гародні ці Бярэсці імёнамі паўстанцаў. І хаця б такім чынам ушанаваць цені касцюшкаўцаў.

**Гутарыла Вольга УЛЕВІЧ, студэнтка факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.**

# ВАША ПІСЬМО АТРЫМАЛІ

**«У нашай сям'і пяцёра дзяцей, і швейная машынка нам вельмі патрэбна. Але стаяла на яе ў чарзе, а за мяне атрымаў нехта іншы», —напісала ў «Звязду» З. Гудзь з в. Н. Дзянісавічы Крупскага раёна.**

**Ці магло такое быць?**

Старшыня Крупскага раённага Савета народных дэпутатаў **У. ХАДАСЕВІЧ** паведаміў рэдакцыі, што пры праверцы ўстаноўлена: З. Гудзь у чарзе на швейную машыну ў Дзянісавіцкім сельсавеце не стаіць і па даведцы Ухвальскім сельпо яна не атаварвалася. Больш таго, выдзеліць гэтай мнагадзетнай сям'і такую рэч цяпер па старой цане не ўяўляецца магчымым. Пры паступленні швейных машынак ва Ухвальскае сельпо адну з іх яна зможа набыць па дзеючых цэнах.

Сапраўды, як указваецца ў пісьме, былы старшыня сельсавета Б. Ржавускі дапускаў выдачу даведак на пакупку тавараў без іх наяўнасці. Цяпер тут перавыбраны кіраўнік мясцовай улады.

***

**«Ці правільна мне налічылі пенсію? Растлумачце, калі ласка, праз газету». Такія пытанні даволі часта сустракаюцца ў пісьмах. У прыватнасці пра гэта прасілі В. Трухан з в. Замосце Петрыкаўскага, У. Матусевіч з в. Аляксандрава Дзяржынскага, Н. Дубак з в. Кошлавічы Слонімскага раёнаў і іншыя.**

Адказвае **начальнік упраўлення пенсій і дапамог Міністэрства сацыяльнага забеспячэння Рэспублікі Беларусь У. ЖЫШКЕВІЧ:**

— Пры наяўнасці стажу работы ў мужчын 25, а ў жанчын — 20 гадоў пенсія назначаецца ў памеры 55 працэнтаў сярэднямесячнай зарплаты. За кожны год работы, які перавышае вышэй указаныя тэрміны, налічваецца дадаткова 1 працэнт ад таго ж сярэдняга заработку, але ўвогуле не больш 75 працэнтаў.

Калі пенсія ў вас мінімальная, дык за кожны год работы звыш 25 гадоў у мужчын і 20 — у жанчын дабаўляецца па 3 працэнты мінімальнай пенсіі, але ўсяго не больш чым 60 працэнтаў.

Вас цікавіць, якая заработная плата бярэцца для назначэння пенсіі? У сёлетнім і наступным гадах — за два апошнія гады работы. А ў прынцыпе будзе налічвацца за любыя 5 гадоў запар з апошніх 15 гадоў працы перад выхадам на пенсію.

***

**«Лес у небяспецы: сякуць, карчуюць — каму толькі ўздумаецца. А куды, як кажуць, глядзяць эколагі, мясцовая ўлада?» Гэта радкі з пісьма жыхара Барысава Н. Рэута.**

— Па нашаму даручэнню,— гаворыцца ў рэагаванні **старшыні Мінскага абласнога камітэта па экалогіі М. ХУДОЙ,** —Барысаўская раённая інспекцыя па экалогіі праверыла факты, выкладзеныя ў пісьме, з выездам на месца. Устаноўлена, што ў сасонніку, які ў раёне аўтобуснага прыпынку «Печы» і знаходзіцца ў распараджэнні жыллёва-камунальнай гаспадаркі, вядзецца разбіўка ўчасткаў пад гаражы. Высечка лесу цяпер тут не робіцца. Кіраўніцтва ЖКГ папярэджана аб неабходнасці ўзмацнення аховы гэтага ўчастка лесу і прыцягненні вінаватых да адказнасці.

Затое ў раёне ваеннага гарадка «Печы» на працягу апошніх гадоў ідзе масавы самавольны захоп ляснога масіву, які належыць ваеннаму ведамству. Аднак камандаваннем вайсковай часці, ваенным лясніцтвам і гарадскімі ўладамі не прымаюцца дзейсныя меры па прыцягненню парушальнікаў да адказнасці. Матэрыял аб парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства накіраваны ваеннаму пракурору Барысаўскага гарнізона. На ляснічага Н. Мятка складзены пратакол і перададзены ў адміністрацыйную камісію Барысаўскага гарвыканкома.

Як кажуць, лес сякуць — трэскі ляцяць. Не лішнім было б, каб за варварскія адносіны да нашага «зялёнага сябра» вінаватыя паляцелі нават з займаемых пасад.

***

**З даволі неардынарным пытаннем звярнуўся ў рэдакцыю А. Ушакоў з в. Коўчыцы-ІІ Светлагорскага раёна. А менавіта — ці могуць яму, як былому ветэрынарнаму работніку, выплаціць за камунальныя паслугі, хоць ён жыве ва ўласным доме?**

У адказе, дасланым **намеснікам старшыні райвыканкома А. Астрэйкам,** сказана, што, згодна з адпаведнымі заканадаўчымі дакументамі, на тых работнікаў, якія пайшлі на пенсію — ветурачоў і ветфельчараў ветучасткаў, участковых лячэбніц, станцый па барацьбе з хваробамі жывёл,— распаўсюджана палажэнне аб захаванні за імі права на бясплатныя кватэры з ацяпленнем і асвятленнем. Праўда, пры адной умове: калі агульны стаж работы не менш 10 гадоў. Ільготы па камунальных паслугах прадастаўляюцца толькі ветэрынарным спецыялістам, якія маюць вышэйшую ці сярэднюю спецыяльную адукацыю.

Варта ведаць і тое, што ў саўгасах і калгасах выплачваюцца яны па меркаванню кіраўніцтва гаспадарак.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ «ЗВЯЗДЫ».**

(Тэлефон 32-04-52).

БІЗНЕС-КЛУБ

# Як палепшыць сямейны дабрабыт? Вельмі проста!

(Заканчэнне. Пачатак у № 110).

### Способ чацвёрты. Прыватная фірма бытавых паслуг

Заснаваць такую фірму нескладана, гэтай працай можа займацца амаль кожны, але лепш за ўсё, калі гэтым займаецца сям'я. Вопыт паказвае, што фірма можа арыентавацца на некаторыя з наступных відаў дзейнасці.

1. Мыццё акон.
2. Мыццё бялізны.
3. Чыстка (выбіванне) дываноў.
4. Мыццё і націранне падлогі.
5. Мыццё аўтамашын і падрыхтоўка іх да зімы.
6. Прыбіранне ва ўстановах, у кватэрах.
7. Дробны рамонт мэблі.
8. Кулінарныя паслугі.
9. Іншыя віды дзейнасці (што ў вас лепш атрымліваецца).

Істотным з'яўляецца вызначэнне цэн на аказваемыя паслугі. Раім узяць за аснову існуючыя дзяржаўныя расцэнкі і ўстанавіць свае, прыкладна на 20—30 працэнтаў вышэйшыя. Вышэйшыя таму, што ваша фірма павінна працаваць больш якасна і хутка, чым дзяржаўныя. Калі вам не ўдалося знайсці выходныя расцэнкі, можна і самім вылічыць іх наступным чынам:

1. Выканайце гэтую працу ў сябе дома і падлічыце час.
2. Пасля гэтага разлічыце колькі яе па схеме:

1 гадзіна працы — 30—40 р. + затраты на мыйныя (альбо іншыя) сродкі + затраты на інструмент + затраты на транспарт (грамадскі ці ўласную машыну).

Кошт адной гадзіны павінен улічваць і магчымыя страты часу паміж выкананнем розных заявак.

Ваша прыватная фірма паслуг можа забяспечыць вам штомесяц вялікі заробак. Але гэта будзе залежаць толькі ад вас. Не забывайце, што прыватны сервіс заўжды вымагае ветлівых адносінаў да кліента і сумленнасці ў разліках.

Кожнаму кліенту дайце сваю візітную картку з адрасам (тэлефонам фірмы і пералікам паслуг).

Заўсёды прытрымлівайцеся ўстаноўленага тэрміну выканання паслугі. Перыядычна ўзнаўляйце рэкламу.

### Способ пяты. Прыватная бібліятэка

Вялікія цэны на паперу прывялі да хуткага скачка цэн на кнігі, і іх можа набыць не кожны. Людзі, якія доўгі час збіралі свае бібліятэкі, пастаўлены перад выбарам: альбо не набываць кнігі, альбо набываць і знайсці для гэтай мэты дадатковы заробак. Адзін са шляхоў выйсця — прыватная бібліятэка.

Гэта паслуга мае на ўвазе прадастаўленне кніг у часовае карыстанне па пісьмовых заяўках. Такім відам дзейнасці могуць займацца асобы, якія маюць свае асабістыя бібліятэкі, пажадана тэматычныя, напрыклад, гісторыя, пчалярства, бізнес і інш. Парадак дзеянняў па арганізацыі прыватнай бібліятэкі наступны:

1. Зайдзіце ў букіністычныя крамы, спытайце ў вулічных гандляроў і вызначце залогавыя сумы, якія вы будзеце браць за карыстанне кнігай.
2. Складзіце спісы прапануемых кніг і часопісаў, вызначце цэны за карыстанне кнігамі на працягу 1 дня.
3. Дайце рэкламу.

Аб'ява можа быць наступнага зместу:

«Прыватная бібліятэка прапануе папулярныя кнігі па наступных тэмах (пералік тэм). Для атрымання падрабязнай інфармацыі высылайце заяўку разам з пустым канвертам і зваротным адрасам».

Праз нейкі час узнаўляйце рэкламу, асабліва расклейку аб'яў у людных месцах. Паспрабуйце рабіць іх больш прывабнымі.

### Способ шосты. Прыватнае бюро даведак

Гэты спосаб заснаваны на вялікім недахваце інфармацыі для людзей. Для яго рэалізацыі патрэбен тэлефон. Можна дзейнічаць і па пошце, але гэта займае больш часу. А ваш заробак будзе залежаць ад аператыўнасці прадастаўлення інфармацыі, неабходнай кліенту.

Для арганізацыі бюро вам неабходна стварыць першасны банк інфармацыі, які потым будзе пастаянна папаўняцца.

У першую чаргу азнаёмцеся з рознымі даведнікамі. Але там пералічаны толькі адрасы дзяржаўных устаноў, атэлье, крамаў.

Вам неабходна прагартаць асноўныя гарадскія газеты за 1—2 гады і выпісаць адрасы і тэлефоны незалежных вытворцаў. Справа ў тым, што яны не могуць дазволіць сабе друкаваць свае аб'явы вельмі часта, гэта для іх дорага, таму пастаўцеся да гэтай справы сур'ёзна. Складзіце асобныя спісы па відах паслуг:

— рамонт кватэр;
— рамонт мэблі;
— пашыў адзення;
— аўтасервіс;
— рэпетытары, і інш.

Такім чынам вы зможаце прапанаваць паслугі не толькі дзяржаўных устаноў, але і прыватнікаў. Але не трэба на гэтым спыняцца. Добра папрацаваўшы з газетамі, вы зможаце прапанаваць і іншыя віды інфармацыі:

— адрасы вытворцаў розных тавараў;
— адрасы замежных фірмаў;
— адрасы пасольстваў і консульстваў;
— адрасы бюро падарожжаў;
— адрасы юрыдычных фірмаў.

Прыклады можна пералічваць доўга. Можна дадаткова прапанаваць неабходныя для людзей парады:

— розныя дыеты;
— кулінарныя рэцэпты;
— рэцэпты він і налівак;
— парады хатнім гаспадыням.

Папрацаваўшы нейкі час, вы зразумееце, якім чынам і па якіх напрамках лепш за ўсё пашыраць справу. Калі вы прынялі рашэнне, трэба пачаць з рэкламы:

«Прыватнае бюро даведак за невялікую плату прадаставіць любую неабходную інфармацыю».

Можа быць, і не любую, але раім вам прымаць заказы і на пошук любой цікавай для кліента інфармацыі. Гэтая паслуга будзе каштаваць даражэй, і, калі вы знойдзеце тое, што трэба, то і атрымаеце больш.

Друкаваць сваю аб'яву часта вы таксама не зможаце, таму выкарыстоўвайце расклейку аб'яў у людных месцах. З цягам часу, дзеля аблягчэння сваёй працы, раім вам даць аб'яву, у якой прапанаваць незалежным вытворцам паслуг самім паведамляць свае каардынаты. Гэта ім вельмі выгадна. Прыняўшы заказ па тэлефоне, вы павінны хутка напісаць адказ і выслаць яго па пошце накладной платай (паштовыя расходы за кошт заказчыка). Цэны на вашы паслугі будуць залежаць ад розных фактараў: складанасць заказу, колькасць адрасоў, аб'ём тэксту і інш. Чым больш інфармацыі набывае ў вас кліент, тым цэны павінны быць ніжэйшымі.

Памятайце: залог вашага поспеху — ветлівасць, якаснае выкананне, сумленнасць у разліках з кліентам. Рассылайце карткі з пералікам паслуг і тэлефонам.

### Способ сёмы. Служба дастаўкі прадуктаў

Гэтая дзейнасць магчыма ў нас дзякуючы ўсеагульнаму дэфіцыту. Яна найбольш падыходзіць для хатніх гаспадынь, пенсіянераў, а таксама новаўленых беспрацоўных. Вам неабходна толькі расклеіць свае аб'явы ў раёне, дзе вы жывяце, і набраць пастаянных кліентаў. Ваша задача — набыць неабходныя прадукты, у асноўным паўсядзённага попыту, і даставіць іх увечары заказчыкам.

Можна таксама прапанаваць паслугі па дастаўцы прадуктаў з базару. Тут неабходна, каб заказчык ведаў узровень цэн. Звычайна аб цэнах на рынку насельніцтва даведваецца з гарадскіх вячэрніх газет. Калі ж раптам вы не зможаце набыць той ці іншы тавар, то кліент вас зразумее, бо вы зацікаўлены ў набыцці не менш за яго. Адначасова можна прымаць заказы на набыццё недэфіцытных непрадуктовых тавараў. Для зручнасці карыстайцеся сумкай на колах, веласіпедам.

Калі ж такой справай захоча займацца чалавек, які мае свой аўтамабіль ці матацыкл, ён можа паставіць справу на больш шырокую нагу. Дастаткова даць аб'яву наступнага зместу: «Дастаўлю прадукты ў неабходнай колькасці. Калі ў вас хутка юбілей, дзень нараджэння — звяртайцеся». Раім вам загадзя дамаўляцца аб умовах, каб вы змаглі назапасіць неабходныя прадукты, калі іх продаж абмежаваны.

Можна таксама арганізаваць дастаўку прадуктаў прама з вёскі, калі там ёсць сваякі ці знаёмыя. Альбо даць аб'яву ў раённай газеце: «Дастаўлю прадукты ў горад і дапамагу прадаць». Гэтая прапанова — для тых вяскоўцаў, якія не маюць магчымасці часта выязджаць на базар у горад, асабліва для вясковых бабулек-пенсіянерак. А вы можаце загадзя дамовіцца аб збыце з сябрамі, суседзямі ці калегамі.

Любы вясковы жыхар, які мае аўтамабіль, можа таксама арганізаваць такую ж службу, даўшы аб'яву:

«Арганізую дастаўку прадуктаў з вёскі аўтамашынай. Заказы дасылайце пісьмова...»

Ваш даход будзе пастаянным, калі вы будзеце прытрымлівацца наступных правілаў:

1. Заўсёды быць ветлівым з кліентамі.
2. Кожнаму пакідаць візітку з адрасам і пералікам тавараў і цэн. Калі ваша праца будзе якаснай, да вас звернуцца яшчэ.
3. Заўсёды прытрымлівайцеся ўстаноўленых тэрмінаў і цэн на паслугі.
4. Перыядычна ўзнаўляйце рэкламу.

**Нехта можа ўсміхнуцца, прачытаўшы гэтыя парады. Маўляў, заробак будзе ўсяго некалькі тысяч, а вакол многія зарабляюць мільёны. Гэта так, але нагадаем, што такія славутыя фірмы, як «Таёта» альбо «Соні», пачыналіся менавіта з дробных прадпрыемстваў. Шырока распаўсюджанае меркаванне: для пачатку прадпрымальніцкай дзейнасці патрэбен значны капітал, але гэта перабольшанне. На жаль, менавіта тыя людзі, якія хацелі б займацца бізнесам, але не маюць капіталу, часта аказваюцца ў палоне ідэі, якая патрабуе для сваёй рэалізацыі буйных капіталаўкладанняў. І засяроджваюцца (у большасці выпадкаў безвынікова) выключна на пошуках фінансавых крыніц замест таго, каб з самага пачатку шукаць і выбіраць для сябе такія віды бізнесу, якія патрабуюць мінімальных капіталаўкладанняў. «Прадпрымальніцтва для бедных» бярэ пачатак на кухні, у гаражы альбо патрабуе мінімальных укладанняў і ўяўляе мінімум рызыкі. Гэта і ёсць той шлях, які пры вашай настойлівасці прывядзе вас да заможнасці і дастатку.**

**Поспехаў вам!**

**Юрась ДРАЗДОЎ.**

